


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусі

выпуск 22 (35)
8 чэрвеня 2021

*«Калі адчуеш, што агонь ужо не сагрэе,*
*калі вада замест праўды намывае толькі глею,*
*калі паветрам дыхаць ты ўжо не мусіш,*
*памятай: ты быў і застаешся дрэвам Беларусі...»*

*(Belaroots, «Аднакарэнныя»)*


1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

2. СІМВОЛІКА

3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ

4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ


**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

З **Уладзімірам Пятровым**
**Оперны тэатр не працягнуў кантракт. Уладзімір Пятроў – народны артыст Беларусі, у трупе з 1993 года – у жніўні 2020 разам з Паўлам Латушкам і іншымі купалаўцамі браў удзел у запісах зваротаў супраць гвалту.**







**Паводле інфармацыі Беларускай Рады Культуры, пасля гучных звальненняў з Вялікага тэатра оперы і балету вядучых салістаў новы дырэктар Вячаслаў Гарбузаў збіраецца звольніць да канца лета артыстаў, якія запісалі відэазварот з асуджэннем гвалту. У ім прынялі ўдзел 188 чалавек.**



**Трох палітзняволеных з незарэгістраванага беларускімі ўладамі Саюзу палякаў Беларусі – Ірэну Бярнацкую, Марыю Цішкоўскую і Ганну Панішаву – вывезлі ў Польшчу з СІЗА. Яны не маюць права вярнуцца ў Беларусь.**





**Вядома, што вызваленне ўзамен на дэпартацыю з краіны прапаноўвалі таксама журналісту Анджэю Пачобуту і старшыні саюзу Анжаліцы Борыс, але яны адмовіліся. Анджэю Пачобуту не перадаюць лекаў для сэрца.**





**Дзяніс Іваноў, артыст камернага хору, затрыманы 1 чэрвеня на працоўным месцы, атрымаў 15 сутак адміністратыўнага арышту.**



**У кватэры Аляксея Кузьміна, саліста гурта «Закон Гука», 2 чэрвеня адбыўся вобшук.**



**Да Дзяніса Дудзінскага, актора і шоўмэна, і Кацярыны Раецкай, яго жонкі, 2 чэрвеня прыйшлі з вобшукам з Дэпартамента фінансавых расследаванняў.**




**У кватэры Валярыны Куставай, паэткі і журналісткі, 3 чэрвеня сілавікі ўзламалі дзверы і правялі вобшук. Самой Валярыны ў кватэры ў гэты час не было.**



**Дадому Аліны Нагорнай, моўнай актывісткі, 3 чэрвеня спрабавала трапіць міліцыя. Гэта не першая іх спроба.**



**У кватэру да Ігара Кліменкі, артыста хора Беларускай дзяржаўнай філармоніі, 3 чэрвеня намагаліся трапіць невядомыя.**

**Генпракуратура Беларусі хоча дапытаць экс-прэзідэнта Літвы Валдаса Адамкуса па справе «аб генацыдзе насельніцтва Беларусі падчас Другой Сусветнай вайны». Пра гэта заявіў кіраўнік следчай групы – старшы пракурор Генпракуратуры Беларусі Эдуард Скуратаў.**

**За паўгода працы новага Міністра культуры Анатоля Маркевіча змянілася мінімум шэсць кіраўнікоў тэатраў, музеяў і бібліятэк.**

# 2. СІМВОЛІКА



**Дзмітрыя Руто**, журналіста Tribuna.com, якога затрымалі 1 чэрвеня за бел-чырвона-белы шалік ў аўто, асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту.

**Зінаіда Смірнова**, 62-гадовая пенсіянерка, атрымала штраф 870 рублёў за шалік у белых і чырвоных колерах.

**Жыхару Брэста** прысудзілі 3 месяцы арышту за тое, што ён сарваў з флагштока дзяржаўны сцяг і кінуў яго на зямлю.

**Вольга Верамеенка**, уладальніца гродненскай крамы «Адметнасць», якая спецыялізуецца на продажы тавараў з нацыянальнай сімволікай, была затрыманая 3 чэрвеня за «пікетаванне». Сілавікі забралі некалькі скрыняў з бел-чырвона-белымі таварамі. Ціск на краму аказваецца са студзеня.

**Барыс Хамайда**, віцебскі актывіст які распаўсюджвае беларускамоўныя выданні пад бел-чырвона-белым парасонам, затрыманы 3 чэрвеня паводле абвінавачання ў несанкцыянаваным пікетаванні. Яму прысудзілі 8 сутак адміністратыўнага арышту.





**Аляксандру Івуліну**, журналісту і блогеру, прысудзілі 30 сутак адміністратыўнага арышту за сцяг, вывешаны ў акне. Па словах Аляксандра і сведкаў, сцяг там не вісеў у гэтым годзе, значыцца, міліцыянты павесілі яго туды, каб сфатаграфаваць і прадставіць у якасці сведчання праваапарушэння. Аляксандр Івулін актыўна падтрымлівае пратэст, у тым ліку матэр’яламі на сваім Youtube канале.

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ



**Ангеліна Туравец, якая адбывала 20 сутак адміністратыўнага арышту ў Віцесбкім ІЧУ за маску з бел-чырвона-белым прынтам, распавяла, што кнігі ім выдавалі на 30 хвілін у дзень.**



**Стэфанія Ціхінская, рэжысёрка і мастачка, якая выйшла пасля 10 сутак адміністратыўнага арышту за бчб сэрцайкі ў акне, распавяла пра ўмовы ўтрымання «палітычных»: перадачы, якія прымаюць у блізкіх зняволеных, не перадаюць зняволеным, могуць атабраць зубную пасту і шчотку, калі пашанцуе, то можна дапрасіцца пракладкі, туалетную паперу, лекі.**



**Надзея Зелянкова, жонка Аляксандра Васілевіча, сузаснавальніка анлайн-выданняў kyky.org і The Village-Беларусь, уладальніка агенцтва Vondel / Hepta і прасторы Галерэя Ў, пра ўмовы яго ўтрымання ў СІЗА:**
***«Увесь гэты час ён у турме. Ён не становіцца здаравейшым. Ён жоўтага колеру. Часам перастае жаўцець, становіцца нармальнага, белага. Потым шэрага, потым зноў жоўтага. Вочы ў яго ўвесь час у гноі. Звязкі на назе як былі парваныя і трэба рабіць аперацыю, так яны і будуць парваныя. У яго выпала пломба, ён не можа яе зрабіць у турме».***



**Алесь Пушкін адмовіўся размаўляць з расейскамоўным следчым. Тым часам яму працягнулі тэрмін утрымання пад вартай да 30 жніўня.**




**Марыю Калеснікаву без яе дазволу 3 чэрвеня здымалі для дзяржаўнага тэлебачання.**

**Наталля Хершэ, палітзняволеная мастачка, знаходзіцца ў карцары. Брату Наталлі паведамілі, што яна «дапускае парушэнне вызначанага парадку адбыцця пакарання». Палітзняволеная знаходзілася ў ШІЗА з 6 па 23 траўня, а 24 траўня трапіла туды зноў.**





**Паўлу Севярынцу дазволілі спатканне з жонкай і сынам.**

**Кася Будзько, палітзняволеная, якая праходзіць па студэнцкай справе, піша ў адным з лістоў пра тое, чым для яе з'яўляецца досвед штодзённых судовых паседжанняў:**

***«На самом деле, если бы меня судили одну, то это было бы настоящей пыткой, каждый день кататься в убер дискомфорте, сидеть и слушать всю эту бредятину и почти не отдыхать. Все перечисленные минусы компенсируются одним плюсом –11 клёвых человек, из-за которых не так тяжело вставать в 6 утра, сидеть на заседании, шутить и слушать смешные шутки, поддерживать друг друга в случае чего, в общем, с ними ездить на суды даже весело))))»***



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



**Ірэна Кацяловіч падрыхтавала агляд дзесяці беларускіх дызайнерак і дызайнераў, чыя творчасць стала люстэркам грамадскіх настрояў гэтых месяцаў супраціву.**



**Андрэй Цяпін – «Дзясятка»: кліп, які нагадвае нам пра нашую барацьбу.**







**Артысты Перамогі: канцэрт Сяргея Пукста, сродкі ад якога пойдуць на аперацыю для Лявона Цімохіна – гісторыка, настаўніка, паэта, экс-дэпутата Маладзечанскага гарсавету, які дамогся ўсталявання ў цэнтры Маладзечна помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў.**




**Цьерд Роярс**
**«Прызнанне Рамана Пратасевіча на беларускім ТВ»**




**Ежы Ёрш, KGB-TV**



**Ліля Квацабая**



**Ліза Лянкевіч**
**«А хто яшчэ сябе адчувае ў клетцы?**
**– Беларусы.**
**А што адчуваюць беларусы**
**за рэальнымі кратамі?»**



**Вольга Якубоўская**
**«Пішыце лісты**
**палітзняволеным!**
**Няхай цеплыня вашых сэрцаў**
**дапаможа ім перажыць**
**гэтыя цёмныя часы!»**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Маргарыта Ляўчук**, оперная спявачка:
***«Ёсць такая вар'яцкая тэорыя: чым горш робіцца і распальваецца абстаноўка, тым хутчэй адбудзецца пералом. І, магчыма, тады гэта ўсё скончыцца, і мы пераможам, і гэта будзе вельмі выпакутаваная Перамога, здабытая літаральна крывёй.***
***Усё ж такі яшчэ не ўсе зразумелі, што адбываецца. Можа нам і дадзена ўсё гэта для таго, каб дайшло да кожнага. І дойдзе. Беларусь маленькая краіна, у кагосьці сваяка звольняць, у кагосьці сябра пасадзяць, ў чыіхсьці знаёмых бізнэс адбяруць».***



**Мікола Папека**, паэт, абвінавачаны па «карагоднай справе»:
***«Прысудзяць нам тэрміны – мы адбудзем, а ім з іх прысудамі давядзецца жыць да канца дзён».***

**Альгерд Бахарэвіч**, пісьменнік:
***«Гэтая рэвалюцыя не скончылася. Людзі сышлі з вуліц, бо гвалт у краіне зашкальвае. Бо канцлагер нарэшце дабудаваны – на руінах цырку. Проста рэвалюцыя перайшла на новы этап. Можна загнаць людзей у турмы і прымусіць сядзець дома, можна зрабіць выгляд, што ўсё скончылася, але супраціў у галовах толькі мацнее. Гісторыю на Акрэсціна не пасадзіш».***



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Börsenverein des Deutschen Buchhandels**



**Асацыяцыя нямецкіх выдаўцоў і кнігагандляроў стварыла петыцыю, дзе асуджае незаконнае затрыманне Рамана Пратасевіча.**





**Вядомы расійскі стрыт-арт мастак Слава ПТРК праводзіць аўкцыён у падтрымку сем'яў беларускіх палітвязняў: ён прадае фота-прынт мурала ў Мінску, на якім у 2016 годзе сімвалічна дамаляваў калючы дрот.**



**Еўрапейская пісьменніцкая рада 5 чэрвеня ладзіла анлайнавую літаратурную сустрэчу пад назвай INVASION OF REALITY. Асобная секцыя анлайн-сутрэчы была прысвечана Беларусі, у ёй удзельнічалі паэтка і актывістка Ганна Комар, паэтка і блогерка Марыя Мартысевіч, пісьменнік і перакладчык Дзмітрый Плакс і грамадская дзеячка Алена Макоўская.**






**«Беларусь вачыма дзяцей» выстава дзіцячага малюнка ў Стакгольме.**

